# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1010) ГОД XX 6 ЛІПЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


# Рыбалаўскі камбінат мяса

Хто з тых, каму давялося ехаць вясною ці ўлетку па шашы Беласток-Бельск, не памятае, як яшчэ некалькі год таму назад за Рыбаламі, па правай руцэ, прасціраўся вялікі абшар пустэчы і аблогаў... Вецер гуляў там сыпучым жаўтаватым пясочкам, а на колішніх межах рос ніцы чарнобель ды плехамі слалася „сабачае мыла". Але год ці паўтара таму назад на самай ускраіне гэтых няўдобіц паявіліся першыя мураваныя будынкі прадпрыемства гадоўлі птушкі Сельскагаспадарчага кааператыва ў Рыбалах, і на месцы ніцага пустазелля захвалявалася звыш 50 гектараў высокага каласістага жыта і іншай збажыны.

— Зямля — гэта наша вялікае багацце. Ніводзін яе кавалачак не можа марнавацца. Яна мусіць радзіць, — заўважае дырэктар прадпрыемства **Б. Лучко.** — Два гады таму назад атрымалі мы з дзяржаўнага фонду зямлі 72 гектары няўдобіц і зямлі VI класа, і перад намі ўстала велічная перспектыва: збудаваць тут ферму адкормкі хатняй птушкі (бройлераў) на **два мільёны** штук. Гэта дасць у год звыш **трох мільёнаў кілаграмаў** каштоўнага мяса. Наша ферма будзе адной з самых вялікіх ва ўсёй краіне. У ёй будуць прыменены самыя сучасныя метады прамысловай гадоўлі бройлераў. Спачатку кураняты будуць к нам паступаць з інкубатара ў Бельску, потым такі інкубатар паўстане тут, на месцы. Прадбачваецца, што ў Бельску будзе ўзведзена прадпрыемства ўступнай апрацоўкі бройлераў, г.зн. бойня. Але на гэтым не канец. Паводле планаў Гміннага ўпраўлення ў Заблудаве праз некалькі год прыбудзе нам яшчэ каля 100 гектараў зямлі, бадай такіх жа няўдобіц. І на гэтых 170 га будзем вырошчваць падсцілку і каля 10 працэнтаў патрэбнага корму для нашых бройлераў. Зразумела, будзем мець курыны гной. Але ён не пойдзе на поле. Як паказалі вопыты ў Чэхаславакіі, адпаведна сфермантаваным курыным гноем, вымешаным з іншымі кармамі, можна адкормліваць убойную жывёлу. Пры гэтым гной можа складаць каля 40 прац. корму, а карміць ім можна маладняк, які мае не меней 200 кг вагі штука і адкормліваць яго аж да 600 кг штука. Значыць, паўстане ў нас ферма гадоўлі ўбойнага быдла на 500 штук. Словам, тут у нас вырасце цэлы камбінат мяса.

— І гэта зусім не такая ўжо і далёкая будучыня, — інфармуе кіраўнік будаўнічага прадпрыемства, што працуе пры Сельскагаспадарчым кааператыве ў Рыбалах, інжынер **Я. Станішэўскі.** — Наша прадпрыемства паўстала тут дзеля таго. каб падрыхтаваць базіс для гэтай вялікай будоўлі і на месцы нарыхтоўваць будаўнічыя матэрыялы, перш за ўсё розныя зборныя канструкцыі і іншыя вырабы з бетону. За два гады мы ўжо шмат чаго зрабілі, між іншым, праклалі спецыяльную электрыфіка-

Працяг на стар. 4





**У мастацкай частцы выступіў хор з Гарадка.**

# Фэстын у Паўночным Востраве

15 чэрвеня ў Паўночным Востраве Шудзялаўскай гміны стаяў пагодны сонечны дзень. У вёску з'ехалася многа людзей, з усяго наваколля, ды яшчэ з Крынкаў і Саколкі. На вуліцы быў ажыўлены рух. У засені дрэў ля страганаў з харчамі, вопраткай, ды напіткамі з самага ранку сабралася шмат народу. Побач, у самым прыгожым месцы была зроблена сцэна, упрыгожаная маладымі бярозкамі ды лозунгамі. Ля ўваходу на пляц перад сцэнай, сярод зялёных бярозак віднеў надпіс «Вітаем удзельнікаў фэстына».

Фэстын адкрыў і прывітаў гасцей, а таксама ўсіх удзельнікаў фэстына сакратар па прапагандзе гміннага камітэта партыі ў Шудзялаве Мікалай Гасперчык. З прамовамі выступілі старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікалай Самоцік і старшыня беластоцкага аддзела БГКТ Янка Цялушэцкі. У сваіх выступленнях яны закранулі справы, звязаныя са святкаваннем 30-ай гадавіны перамогі над фашызмам.

У мастацкай частцы з паўтарагадзіннай праграмай выступіў жаночы хор з Гарадка. У яго выкананні былі песні, частушкі, вершы. Пасля мастацкай часткі адбылася згадуй-згадуля. Першы ў гісторыі вёскі БГКТ-оўскі фэстын ў Паўночным Востраве закончыўся народным гуляннем.

Варта адзначыць, што пры падрыхтоўцы фэстына асабліва напрацаваліся мясцовыя арганізатары Мікалай Макарэвіч, Ян Кісель, Мікалай Гжыбэк, Яўген Гжыбэк, Уладзімір Сіткевіч, дапамагалі ім Ірэна Байгуз — кіраўнічка мясцовага клуба «Рух», Вера Габец — сакратар аддзела Беларускага таварыства ў Саколцы і Людміла Васілюк — культурна-асветны кіраўнік ГП БГКТ у Беластоку.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



**Удзельнікі беларускага фэстына.**

# ЯК ЖЫВУЦЬ У ТУРНЕ?

За Сямяцічамі, на ўскраіне Беластоцкага ваяводства, амаль над ракой Буг знаходзіцца вёска **Турна Дужа.** Дагэтуль я толькі чуў пра яе. І вось у чэрвені ў самы час сенакосаў, калі на вясковых дарогах разносіцца духмяны пах скошанай травы, рунеючага жыта і ліпавага цвету, давялося мне наведаць гэтую вёску.

Як жывуць тут людзі?

Паўтараючы ў думках гэтае пытанне, ішоў я тыповай вясковай вуліцай, па абодвух баках якой раскінуліся тыповыя вясковыя дамы. Разам іх каля 70. Ад рухлівых дарог і гаманлівых цэнтраў Турна Дужа схавалася пад галіністымі зялёнымі кронамі старых дрэў. Спакойна тут і ціха, бо дзень рабочы і сяляне заняты на сенажаці або ў полі. Здаецца, што час спыніўся.

І раптам прарэзлівы крык:

— Панове, ратунку! Ратунку!

Бягу на панадворак, адкуль чуваць гэты крык. У вакне раскучманая жанчына. З першага позірку разумею, што яна хворая, што патрэбны ёй лекар псіхічных хвароб, а не журналіст. Сумна становіцца на сэрцы. Што ж, у жыцці ўсялякае бывае.

Некалькі дамоў далей, на парозе старэнькай хаткі пад саламянай страхой бачу старэнькую жанчыну. Такіх домікаў у Турне Дужай налічыў я яшчэ два. На фоне шматлікіх, супернавейшых мураванак, такіх, для прыкладу, як двухпавярховы асабняк Васіля Мудэля, на фоне прасторных, пераважна прыгожа размаляваных драўляных жылых дамоў, як у солтыса Аляксандра Жабюка, гэтыя „саламяныя стрэхі" выглядаюць, як балячкі на гладкім і прыгожым, маладым целе. А тут яшчэ і старэнькая жанчына. Завуць яе Дамініка Мудэль.



*Бабулька Дамініка Мудэль пражыла ў Турне Дужай ужо 84 гады. На яе вачах здзейсніліся ў гэтай вёсцы вялікія перамены.*

— Пражыла я на божым свеце ўжо 84 гады, — гаворыць яна і зараз дадае: — Калі не верыце, дык дакумент пакажу. 26 гадоў таму назад пахавала мужа. Мела жанатага сына. Але ён страшэнна піў гарэлку і, мабыць, ад яе дастаў разрыву сэрца, асіраціў дзяцей і мяне. Ужо чацвёрты год будзе, як і яго я пахавала... — І сляза пакацілася па зморшчынах яе твару. — Цяпер жонд мне дапамагае. Кожны месяц пісьманосец прыносіць 860 зл. І суседзяў маю добрых, пра мяне не забываюць, і нявестка таксама мяне не цураецца, накорміць і дапаможа. Толькі вось, халера, агародчык мне зусім забралі, Язэп Рой забраў... А хацелася б дзе што яшчэ пасадзіць, каб расло ўласнае...

Гляджу на яе і не хочацца верыць, што яна яшчэ з мінулага стагоддзя, што перажыла столькі няшчасцяў. Чысценька апранутая, шустрая бабулька.

На лавачцы ля солтысавай хаты сустракаю Якуба Жабюка. У Турне пражыў ён ужо 77 гадоў, калі не лічыць шасцігадовага бежанства ў час І сусветнай вайны, калі казакі і страх перад немцамі загналі жыхароў нашых вёсак у глыб Расіі.

Працяг на стар. 4




# Дзве сесіі:

## АПОШНЯЯ І ПЕРШАЯ

Ад 1 чэрвеня 1975 года існуе ў нас двухступенчатая сістэма адміністрацыйнага падзелу краіны. Таму неабходна было прыстасаваць да гэтай сістэмы і органы народных прадстаўнікоў. На працягу апошніх тыдняў адбыліся ў сядзібах даўнейшых паветаў апошнія сесіі павятовых радаў нарадовых, якія прынялі пастановы аб спыненні сваёй дзейнасці, а 14 чэрвеня г.г. была склікана апошняя сесія Ваяводскай рады нарадовай Беластоцкага ваяводства ў яго даўнейшых межах. Старшынёй яе быў Здзіслаў Куроўскі, які да палавіны мая г.г. з'яўляўся І сакратаром ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку, а цяпер з'яўляецца старшынёю Федэрацыі саюзаў польскай моладзі. Яго намеснік — Уладзімір Міхалюк — вядомы на Беласточчыне партыйны і дзяржаўны дзеяч — стаў сакратаром ваяводскага камітэта партыі ў Ломжы.

Абодвум ім сардэчна падзякавала ад імя ўсіх радных Леакадзія Зіневіч.

За грамадскую працу для Беласточчыны, за клопаты аб ёй звыш 50 радных ВРН былі ўзнагароджаны залатымі і сярэбранымі адзнакамі „Заслужаны для Беласточчыны".

На аснове рашэнняў Рады Дзяржавы ад 31 мая 1975 г. да часу наступных выбараў радныя, якія атрымалі мандаты ад насельніцтва, што жыве ў межах новаўтвораных ваяводстваў, складаюць у гэтых ваяводствах прадстаўнічыя органы ўлады ваяводскага ўзроўню — ваяводскія рады нарадовыя. Адначасова Рада Дзяржавы пастанавіла таксама, што састаў ваяводскіх радаў папаўняецца раднымі даўнейшых павятовых радаў.

Такім чынам, у ваяводскай радзе нарадовай Беластоцкага ваяводства, у яго новых межах, апынулася 100 радных — прадстаўнікоў працоўнага люду гарадоў і вёсак. І сесія ВРН у Беластоку ў новым саставе адбылася таксама ў суботу 14 чэрвеня гэтага года. Радныя аднагалосна выбралі старшынёю ВРН **Уладзіслава Юшкевіча** — І сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку. Таксама аднагалосна прынята была кандыдатура **Леакадзіі Зіневіч** на намесніка старшыні ВРН.

У сваім першым выступленні ў ролі старшыні ВРН тав. Ул. Юшкевіч сказаў:

— У новых межах Беластоцкага ваяводства мы павінны даказаць, што паскораны рытм працы мае тут трывалы характар, што ёсць у нас магчымасці працаваць яшчэ лепш, больш эфектыўна, паспяхова пераадольваючы ўсе цяжкасці.

З выступлення Беластоцкага ваяводы др **Зыгмунта Спрыхі** мы даведаліся, што тэрыторыя Беластоцкага ваяводства ў яго новых межах складае крыху больш 10 тысяч квадратных кіламетраў. Па сваёй велічыні займае яно 4 месца ў краіне. Цяперашняя Беласточчына займае 3,2 прац. тэрыторыі ўсёй Польшчы. На гэтай тэрыторыі 31 снежня 1974 г. пражывала 613 тыс. 800 чалавек, у тым ліку 316 600 жанчын (значыць, на 19 400 больш, чым мужчын), што складае 1,8 прац. жыхароў краіны. У гарадах на Беласточчыне пражывае на 27 тыс. чалавек менш, чым у вёсках. Ёсць тут каля 100 тыс. аднаасобных гаспадарак, 6 ПГР-аў і звыш 10 сельскагаспадарчых кааператываў. На Беласточчыне знаходзіцца 17 гарадоў. Найбуйнейшым горадам з'яўляецца Беласток, які ў далейшым захоўвае свой звышрэгіянальны характар, як буйны прамысловы, культурны і навуковы цэнтр.

Адміністрацыйная рэформа адкрывае новыя шанцы развіцця цяперашняй Беласточчыны. Асноўны напрамак гэтага развіцця — спажывецкая і харчовая прамысловасць, электроніка і прадукцыя мэблі.

Першая сесія ВРН у новым саставе закончыла сваю працу, прыняўшы план дзейнасці, які прадбачвае, між іншым, абмяркоўку праграмы развіцця культуры, агляд сацыяльна-бытавых умоў працы рабочых і служачых, зацвярджэнне 5-гадовага плана гаспадарчага і грамадскага развіцця Беластоцкага ваяводства і іншыя, не менш важныя справы.

(вр)



*Вуліца Ванеева ў Мінску.*

Карэспандэнцыя з Мінска

# Мінск сёння і заўтра

Сталіца Беларусі — Мінск належыць да гарадоў, якія растуць асабліва хутка: за апошнія 13 год яго насельніцтва павялічылася больш чым удвая і складае цяпер 1 130 000 чалавек. К 1980 году колькасць мінчан наблізіцца да паўтарамільённай лічбы.

Бурнае развіццё горада ставіць цэлы комплекс сур'ёзных праблем. Найбольш важнай з іх з'яўляецца забеспячэнне насельніцтва жыллём. За год у Мінску будуецца 17-18 тысяч кватэр. Яго жыллёвы фонд узрос у параўнанні з даваенным у 8 разоў.

Цяпер ствараюцца закончаныя архітэктурныя ансамблі ўздоўж асноўных магістраляў. Аптымальнымі прызнаны будынкі ў 9-12 паверхаў. Побач з імі будуюцца і 16-18-павярховыя будынкі, ажыўляючыя панараму горада.

Сённяшні Мінск займае плошчу 15,5 тыс. гектараў. Патрэбы ў транспарце растуць хутчэй, чым сам горад. Мінчане не могуць не лічыцца з нашэсцем аўтамабіляў, якое наступіць у бліжэйшай будучыні, але становішча не прадстаўляецца безнадзейным. Цвёрда вырашана, што горад заўсёды будзе належаць людзям. Ужо цяпер уся транзітная камунікацыя ідзе ў абход Мінска. Будуюцца скарасныя, неперасякаючыеся магістралі, ствараюцца вуліцы-дублёры, аўтаматызуецца рэгуліроўка вулічнага руху. Асноўныя транспартныя струмені прапускаюцца ў баку ад жыллёвых раёнаў.

Як і ўсюды ў краіне, у Мінску даўно ўзяты курс на развіццё камфартабельнага і хуткага грамадскага транспарту. У хуткай будучыні сталіца Беларусі атрымае метро. Гэта дазволіць радыкальна палепшыць праблему транспарту.

Пастаянна праяўляюцца клопаты аб чысціні акружаючага навакольля. На будаўніцтва ачышчальных збудаванняў у Мінску дзяржава адпусціла ў 1974 годзе 2 500 000 рублёў — удвая больш, чым у папярэднім. Выдаткі ў гэтай галіне гарадскога бюджэту пастаянна растуць. Увядзенне ў эксплуатацыю прамысловых прадпрыемстваў дапускаецца толькі пасля праверкі эфектыўнасці ачышчальных збудаванняў. За гэтым сочыць санітарная служба, у якой працуюць 900 спецыялістаў. У атмасферы Мінска чаднага газу знаходзіцца ў 23 разы менш, чым у Лондане, у 26 разоў менш, чым у Парыжы.

Гэту праблему дапамагаюць вырашыць зялёныя пасадкі. Іх плошча ў Мінску больш 1 700 гектараў, гэта значыць на кожнага жыхара прыходзіцца нібы садзік у 70 квадратных метраў. Плануецца падвоіць гэтую цыфру. Расшыраецца і „зялёнае кальцо" вакол горада, якое займае каля 600 000 гектараў. Яго радыус дасягае 10 кіламетраў. У 1975 годзе заканчваецца будаўніцтва Вілейска-Мінскай гідрасістэмы, якая дадаткова да ракі Свіслачы будзе перакідаць у горад 1 300 000 кубаметраў вады ў суткі. Гэта дазволіць вырашыць праблему вады ў горадзе на многія гады наперад.

Для адпачынку гаражан вакол Мінска будуюцца „Вадзяныя каралі" — сістэма спалучаных між сабой азёр і ставаў. Прадугледжана стварэнне ў ваколіцах 24 зон адпачынку. Да самай аддаленай з іх жыхары змогуць дабрацца за гадзіну.

Складальнікі плана развіцця горада стараліся прадугледзець усё дзеля таго, каб чалавеку дыхалася лёгка не толькі сёння, але і ў 2 000 годзе.

## Наш каляндар

# Пятро Глебка



Нарадзіўся **Пятро Глебка** 6 ліпеня 1905 г. у вёсцы Вялікая Уса на Міншчыне. Вучыўся ў Мінскім педагагічным тэхнікуме, затым у 1930 г. закончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Беларускага універсітэта. Вершы пачаў пісаць яшчэ ў школе. У 1927 г. выходзіць першы зборнік яго вершаў „Шыпшына", у якім цэнтральнае месца займаюць творы аб свабоднай Савецкай Беларусі і яе неабмежаваных перспектывах развіцця. „Урачыстыя дні" (1930 г.), „Хада падзей" (1932 г.) і „Чатыры вятры" (1935 г.) — наступныя зборнікі вершаў, прысвечаныя надзённым падзеям, сацыялістычнаму будаўніцтву і героіцы рэвалюцыйнай барацьбы ў недалёкім мінулым. З-пад пяра П. Глебкі выходзіць шэраг паэм: „На спатканні гадоў" (1928 г.) — вобраз адыходзячай і новай Беларусі, бачаных вачамі сучасніка; „Герой і партызанка" (1928 г.) — аб гераічнай смерці чырвонагвардзейца Максіма і помсце партызанкай Алесяй; „Трывожны сігнал" (1929 г.) — аб народным важаку - рэвалюцыянеру, што выратаваў свой атрад; „Мужнасць" (1934 г.), прысвечаная бяссмерцю ленінскіх ідэй і іх здзяйсненню ў СССР; „Над Бярозай-ракой" (1939 г.) і іншыя.

У часе вайны П. Глебка працуе ў франтавой газеце „За Савецкую Беларусь", піша шэраг хвалюючых і глыбока патрыятычных вершаў і сатырычных твораў, якія шырока разыходзіліся сярод партызанаў і насельніцтва акупіраванай Беларусі.

Пасля вайны ідэалы глебкаўскага лірычнага героя — гэта ідэалы мірнага чалавека, які свае намаганні засяроджвае на стваральнай працы. У цыкле „З вершаў аб заграніцы" (1957 г.) — спачуванне простым людзям Захаду і асуджэн-

(Працяг на стар. 5)




**Sobota 5.VII.** 15.10 Pr. I prop. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Dziennik. 15.40 Obiektyw. 16.00 Inf. Wyd. 16.15 Za kierownicą. 16.45 Trzy pokolenia. 17.15 Kwadrans dla Tadeusza Woźniaka. 17.35 Postaw się — nie zastaw się. 18.20 Pr. publ. kult. 19.00 Opera tygodnia: „Cyrulik Sewilski" — odc. VI. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Synowie Katy Elder — film fab. USA (western). 22.20 Dziennik. 22.40 Sport. 22.55 Przeboje świata.

**Niedziela 6.VII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Dziewcząt i Chłopców: „Konik Garbusek" — film fab. radz. 10.15 Antena. 10.35 W starym kinie: Przygody Nasreddina — film radz. 12.15 Pr. muz. 13.00 Dziennik. 13.20 Tydzień. 13.50 Z kamerą wśród zwierząt. 14.20 Panorama Kult.: Wrocław — Warszawie. 15.20 Los. Toto-Lot. 15.35 Mieszkańcy Arktyki — film dok. fiński. 16.00 Most westchnień — film fab. wł. 17.30 Refl. ob. 17.45 Sport. 19.00 Opera tygodnia: „Cyrulik Sewilski" — odc. VII (ostatni). 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 21.25 Róże Montreux. 22.00 TERESA LIPOWSKA. 22.40 Sport.

**Poniedziałek 7.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Echo stadionu. 17.30 TELEFERIE. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.25 Teatr TV: Plebiscyt Widzów Teatru TV — Molier „Mieszczanin szlachcicem". 21.45 „Grupa I" — pr. rozr. 22.10 Dziennik. 22.30 Sport.

**Wtorek 8.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pol. Film Dok. 17.30 Lato z pomysłem. 17.35 Fakty, Op., Hip. 18.05 Lato z pomysłem. 18.10 Nie tylko dla pań. 18.35 Lato z pomysłem. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Rancho w dolinie — film ser. USA odc. II. 21.20 Lato z pomysłem. 21.25 Polska — konto 75. 22.00 Dziennik. 22.15 Sport. 22.45 Kabaret Starszych Panów.

**Środa 9.VII.** 16.20 Pr. dnia 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Los. Mał. Lot. 17.10 Opera. 18.00 Patrol. 18.20 Wyrok — film ser. węg. (Miasto w czerni) odc. II. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Ludzie z metra — film fab. czech. 21.45 Interstudio. 22.25 Dziennik. 22.40 Sport. 22.50 Magazyn ITP.

**Czwartek 10.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pr. lokalny. 17.00 Tur. i wyp. 17.25 TELEFERIE. 18.35 Czym żyje świat. 19.05 Przyp., radz. 19.10 Wyst. Amb. Mongolii. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Strach ma wielkie oczy — film fab. ang. 21.05 Fest. Pios. Żołn. w Kołobrzegu — Koncert inaugurac. 22.35 Pegaz. 23.20 Dziennik. 23.35 Sport.

**Piątek 11.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Sezam. 17.30 Jak patrzeć na dzieło sztuki. 18.00 Encyklopedia zwierząt — film dok. fr. 18.35 Fest. Pios. Żołn. w Kołobrzegu — cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Człowiek w przechodnim podwórku — film ser. radz. 21.15 Panorama. 22.00 Fest. Pios. Żołn. w Kołobrzegu — cz. II. 23.00 Dziennik. 23.15 Sport.




**Piątek 4.VII** — 9.10 Koncert. 13.20 Koncert. 16.30 Sport. 18.15 Film fab. 19.30 Fest. pios. „Złoty Orfeusz".

**Sobota 5.VII** — 7.30 Spektakl lalkowy. 8.40 Pr. muz. 9.30 Muzeum ceramiki. 10.00 Śpiewa Państw. Chór Kozaków Kubańskich. 14.15 Koncert pios. radz. 15.45 Film anim. 16.15 Pr. sport. 17.45 Spektakl teatr. 19.00 Czas. 19.30 c.d. spektaklu.

**Niedziela 6.VII** — 9.00 Spektakl TV. 12.00 Film fab. 14.35 Panorama międzynar. 15.05 Koncert. 16.40 Klub film. 17.40 Piosenka-75. 18.05 Ark. Rajkin. 19.30 Pr. muz. 20.30 Pr. Sport.




**Białowieża** Kowadło czy młot — bułg. 8—9. Jutro będzie za późno — czes. 12—13.

**Czyże** Opowieść w czerwieni — pol. Wiosna panie sierżancie — pol. 9—13.

**Dubicze Cerkiewne** Swobodny oddech — węg. Zapis zbrodni — pol. 9—13.

**Gródek** Kowadło czy młot — bułg. 12—13.

**Kleszczele** Gniewna podróż — bułg. 8—9. Życie raz jeszcze — pol. 10—11. Dowódca łodzi podwodnej — radz. 12—13.

**Michałowo** Słodka Charitty — USA 8—9. Zbrodniarka czy ofiara — jap. 10—11. Wódz Prusów — radz. 12—13.

**Milejczyce** Giuseppe w Warszawie — pol. 8—9. Kochankowie roku pierwszego — czes. 10—11. Szczęśliwego Nowego Roku — fr. 12—13.

**Narew** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. Narkotyk — fr. 9—13.

**Narewka** Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. Małżonkowie roku II — radz. 9—13.

**Nurzec** Ostatnia gra Karima — radz. 8—9. Rancho Texas — pol. 10—11. Banda — pol. 12—13.

**Orla** Kasztany miłości — wł. Weronika — węg. 9—13.

**Rajsk** Pójdziesz ponad sadem — pol. Pułapka w delcie Dunaju — rum. 9—13.

B.Z.Graf. zam. 1730 P-1

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 198


☆

Вазьму цябе я на далонь
так як бяром не раз
у полі матыля
і выцягну руку
і распрастую пальцы
скажу
— ляці каханая да сонца
як паляціш у даль
агорне мяне сум
а калі вернешся
у сэрца стрэліць радасць
і стану я цялесны свой
цяжар
і за табою узлячу
у неба сінію паводку
і за табою на зямлю ўпаду
з табой ляцець і падаць
мне салодка

**Алесь Барскі**

## РУСКІ ЧАЙ

Ніхто калісьці ў вёсцы Мора
Не ведаў чаю — не сакрэт.
Быў нехта ад прастуды хворы —
Піць ліпавы давалі цвет.

Помню, у Орлі, у сталовай,
Са школы выйшаўшы, бадай,
Упершыню ў жыцці вясковым
Піў смакавіты рускі чай.

І калі перасохне ў горле
У спёку лета, цёплы май,
Прыпомніцца той піты ў Орлі
Слаўны, духмяны рускі чай.

**Віктар Швед**

## МАЕ ВЯТРЫ

Мае вятры, мае надзеі,
Вы для мяне надзеі-сны.
Мой крык у голасе завеі,
А смех у голасе вясны.

Мой плач у шопаце галінак
Гарбатых вербаў над вадой.
Пагляд у золаце іскрынак,
Адбітых чыстаю расой.

Журба ад посвістаў асенніх,
Туга ад крыку жураўлёў.
А шчасце ў подыхах вясенніх,
Пахучых кветкамі лугоў.

У гэтым радасць існавання,
Хвілін жыццёвых пераплёт.
І радасць першага спаткання,
І перажытых смак пяшчот.

**Л. Танкевіч**

## Муой стосунок до прошлого

я так на поважне
нэ пуойду ужэ машыною
аж до Мітлашуов
з надіёю (а еі укрывала
аж пуод жэлуодком)
што там прыгода
затягнута мгелкою эротыкі

нэ прыложу уха до рэёк
коб учуті як у Вуорлі
на фэстывалёві
музыка заіваняе
а хочбы і прыложыла
то туолькі сьміэх
свуой учую

нэ пішу гротэскі:
віэдаеш шчэ штось стріэльнэ
і тымі рэйкамі до музыкуов
добіжу
але я ж там пуодгледаті
і туолько пуодгледаті

**З. Сачко**

## Расчараванне

У краіне мараў
зорамі ружаў
яснее неба крыштал
у блакітным цені
гароду
подых вясны ўкалысвае
— вочы
. . . . . . . . . .
— набеглі слязьмі
і ўсё пачарнела рэчаіснасцю.
. . . . дарагая,
плачаш?!..

**Кастусь Бандарук**

**З сучаснай польскай паэзіі**

**ЦЭЗАРЫ АБРАМОВІЧ**

## Зачараванне

Шляхамі кінаварнымі
крочу штодзённа
да крыніцы спакою
піць з сасмаглымі
аленямі і канямі,
блукаю зачараваны
па верасовых пажарышчах,
збіраючы ў крынку
фарбы неба і зямлі
і ціш блакітную, на лекі
супраць іржы стамлення,
або петлі стаўлю
на чужыя смуткі,
што каркаюць захланна,
бо хоць я з сонцам
і небам у дружбе
і ў метрыкі лесу запісан,
не дуб я і не бяроза
з казачнай краіны
дзён змуршэлых, бо мне
замала для шчасця
майго ўласнага шчасця
і зачаравання.

*З польскай пераклаў*
*Мікалай Гайдук*

☆

Спявайце хлопцы
вечарам
у маі
маткам спявайце
чакаўшым
ля акна
бацька спяваў
чаромухі
цвітуць
аб чаромусе
песні
аб конях
вясне
спявайце вечарам
майскім
месяцу зорам
матчыным сэрцам
песню вясны
— спявайце

**Вераніка Леанюк**

## Вярнуўся

Гаварылі табе
— хопіць, спыніся
Не туды пайшоў
блудзіш
Блудзіш...
а ты не слухаў
быццам аглох
урэшце адказаў
— у мяне свае
дарогі
Вы іх не блытайце!
Крыкнуў
голасам крыўдай і
злосцю недавер'я налітым
А мы больш нічога
не гаварылі, навошта...
Мы хацелі добра
Мы не памыляліся
Куды ты пайшоў
не было дарогі
і сцяжыны нават не было
Там цёмна, часам
вочы нейкія заззяюць
Ты не паслухаў
Ты пайшоў туды

* ☆ *

зазванілі куранты
закрычалі і разам
з крыкам
Ты вярнуўся
ціха
Спусціўшы галаву
Згорбіўшыся ішоў
як лунацік няспынна
Спыніўся перад намі
і сказаў тры словы
— Я памыліўся
— Прабачце
. . . .
Ты адважны

**Ірэна Баравік**

## Зніжаешся, зара...

Зніжаешся, зара...
дзень, наступны, яшчэ адзін,
зніжаешся павольна, ціха, балюча,
не ўздрыгне сэрца, блеск ясны,
не адклікнешся рэхам лясным,
не запахнеш водарам язьміну.

Шкада, ужо канец вясны,
памірае май, цямнее лісце,
адцвіў ўжо бэз і ландыш...

...Калісьці хацеў ты назбіраць на вянок,
хацеў бегчы, як борзды алень,
у даль, на „канец света“,
хацеў прадоўжыць да бясконцасці
нашай дружбы ранак,
не ўмеў ты затрымаць змроку...
неба пацямнела,
а зара пабялела, заціхла,
задрыжала яркасці астаткам,
абальзамована ценем бабінага лета...
Трывала ў паданні, калі світала,
калі дзень радзіўся новы, —
безнадзейная малая...

Зніжаешся, зара...
Астаўляеш толькі след успамінаў цёплых.

**Ніна Гаўрылюк**

## Вясёлае пахаванне

Памёр дзед. Унукі, як два смольныя карчы, узрадаваліся:

— Цудоўна!

— Баба запытала:

— Чаму?

— Не будзе каму біць нас...

— Вось яно што, — жахнулася баба. Сумна ёй стала. І калі цяпер унукі хуліганілі, не карала іх, адварочвалася, рабіла выгляд, што не заўважае. Не хацела, каб унукі пасля яе смерці цешыліся. А яны раслі разбэшчанымі. Бо бацькі, занятыя работай, нічога не заўважалі. Былі спакойнымі, што іх сыноў выхоўвае баба.

**Уладзімір Малашкевіч**

## Рыжы кот

Кот устаў. Выгнуў спіну. Глянуў на сонца.
Павольна пайшоў у цянёк.
Сонна. Сонца свеціць. Птушкі спяваюць.
Весела. Лета.
Кот мурлыкае.
Сонна...
Прыскакала маленькая шэрая птушачка.
Туды-сюды галоўкай. Стаіць міска з
бруднай вадой. Куры п'юць.
Птушачка скок-скок да вады.
Кот мурлыкае.
Птушка п'е.
Хвост ката б'е ў зямлю.
Крыкнуць?..
Птушачка ціўкнула і паляцела
Кот злосна глядзіць на мяне.
Лёг.
Мурлык-мурлык...

**Міра Лукша**

Пацяшаліся, слухаючы яго. У старога засекі махлярства: гэтым ён жыў.

Здаецца, найболей смяшыла нас тое, як заляцаліся чатыры дзяўчыны, якіх адагнала жонка. Расказваў трэці раз. (— Яны, бачыце, да таго ж утрэскаліся ў мяне!..)

Мы сінелі, каб быць сур'ёзнымі. Душы — іржалі!! І ўсё не верылася, што яшчэ сяджу, яшчэ не заграбаю нагамі падлогу ды не выю, быццам ад шалёнай казыткі... (Я, бачыце, схаваўся за дзвярыма!..)

Франак не ўтрываў, але зграбна ўдалося яму прытварыцца, што папярхнуўся чаркаю. Кашляніна, перайшоўшая ў рагатлівы стогн, не прыпыніла старога... Сядзелі мы на ўскраіне Беластока, у Антанюкоўскім квартале мешчанеючага сялянства, у логаве нейкай электрамеханічнай майстэрні, на хрыбтах непарамантаваных адпыльвачаў.

Сцябалі гарэлку.

— Ого, мне было тады ўсяго якіх шэсцьдзесят гадоў, — стары-старэнькі выпіў паўчаркі, пачаў смактаць квашаны агурок. Каўкнуўшы яго, захліснуўся: — Вы не бачылі маёй жонкі, панове. Як маліна! Трыццаць восем гадоў ёй. Я шчэ ліцэісткай узяў яе, ну. Плакала, але я сказаў, што ў грашах будзе спаць, і пяць тысяч ёй у руку — бах! Назаўтра — другія пяць... Яна пасядзела, пералічыла і абціхла. Во як жаніўся..

У Франка павузелі вочы.

Стары шчасліва змяніў тэму, я ўстаў, каб прайсціся ў кут. Мяне даганялі пахвалы кагосьці, і я спатыкаўся аб жалезіны, бляхі, звіткі дратоў. Захацелася ўпіцца, бутэлька чакала.

## Пан інжынер

— Вып'ем, пане інжынер. Вып'ем! — надакучліва перабіваў я. Стары і недавучаны, калі называлі яго „пане інжынер“ — саладзеў.

— Ну...

— Вып'ем, пане інжынер. Ну, пане інжынер... (А думалася: да чаго ж ён даплёўся!)

Ён хваліў начальніка, аб якім вядома было такое, ад чаго і агонь пабялеў бы. Хваліў!

— Аднойчы начальнік кажа: сядайце, пане інжынер. Так сказаў: сядайце... І кажа: пане інжынер, ахвотна прагнаў бы вас, але нікога такога на вашае месца няма! Абы-каго не хачу! Дык слухайце: даю вам тысячу залатых у дзень, вы таго варты...

Ні Франак, ні я не даведаліся, чаму быў варты аж столькі? Зрэшты, нам напляваць. Мы дапілі недапітае і добрую гадзіну думалі, як адчапіцца...

...Франак, папрасіўшы разоў з пяць прабачэння, выйшаў у туалет і, папрасцяцку не вярнуўся. Пакінуў мяне! І, здавалася, стаіць ён, падла, за вуглом ды рагоча...

Стары пабалбатаў, потым памаўчаў і спытаў мяне аб чымсьці, чаго я зразу не ўцяміў.

Спытаў:

— Купіце адпыльвач?

Я нават пацікавіўся, бо таго яшчэ не чуў ад яго... Душа мая ўсхапілася да далейшага рогату: „На халеру мне лом!“ — іржаў я пад вантробаю, сціснуўшы губы.

— У добрым стане... — хуценька патлумачыўся ён. — Таргавацца не буду, от, за палавіну аддам... Ведаеце, пане, жонка мая кажа: пашто нам адпыльвач, сама прыпарадкую кватэру, прадай! Думаю, праўда... Добрая жонка...

Я ўбачыў, як ён цверазее ад гэтых сваіх слоў. І неўзабаве здарыцца з ім нешта такое, ад чаго не змагу падняць вачэй. Схапіўшыся, я сарваў з цвіка сваю куртку і, паказваючы на гадзіннік, наплёў старому чорт ведае аб чым...

Ён, не выцверазеўшы, паддаўся майму плячу.

Падыйшлі да стаянкі таксі, я ўваліў яго на задняе сядзенне чорнай волгі, заплаціў падвойную тарыфу.

Сам пайшоў наўпрасткі.

**Сакрат Яновіч**



*На пляцы будовы рыбалаўскага камбіната мяса інжынеры З. Палоцкі і Я. Станішэўскі.*

# Рыбалаўскі камбінат мяса

Пачатак на стар. 1

цыю, збудавалі глыбінныя калодзежы, склады, варштаты, адміністрацыйны будынак. Беластоцкае прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва ўжо прыступіла да пабудовы першай чаргі фермы. Гэта будзе шэсць будынкаў на 96 тысяч бройлераў. Яны павінны быць гатовы да канца бягучага года. Значыць, на пачатку 1976 года з нашай фермы паступяць у крамы першыя адкормленыя бройлеры. Уся ферма бройлераў павінна быць здадзена ў эксплуатацыю ў канцы 1977 года. Тады ў ёй будуць 24 вытворчыя будынкі памерам у 120 метраў даўжыні і 14 метраў шырыні кожны. Зразумела, будуць пабудаваны таксама цеплацэнтраль, воданацісканая ўстаноўка, дэзінфекцыйны аб'ект і два сучасныя жылыя будынкі па 18 кватэраў кожны. Наогул жа на нашай ферме ў 1977 годзе будзе працаваць звыш 140 асоб, у асноўным жыхары з Рыбалаў і навакольных вёсак. Гэта напэўна карысна ўздзейнічае на развіццё вёскі Рыбалы.

— Праца пры пабудове фермы, як самі бачыце, ідзе поўным ходам, — кажа інжынер **З. Палоцкі** з Беластоцкага прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва і раз-пораз заглядае ў візір вымяральнага прыбора. — Ужо паступаюць з Гданьска стальныя каркасы для вытворчых будынкаў, маем і іншыя зборныя канструкцыі. Ужо капаем катлаваны пад блокі фундаментаў. Усё гэта патрабуе вялікай дакладнасці, можна сказаць, да дзесятай долі сантыметра. Такая ўжо натура сучаснага будаўніцтва, калі хочаш, каб яно было трывалым і надзейным. Думаю, што першую чаргу вытворчых будынкаў фермы выканаем тэрмінова, не павінна быць цяжкасцей і ў далейшым.

Рабочая брыгада працуе пры капанні катлаванаў на фундаменты, бульдозер раўняе грунт пад будучую ферму, а ў будынку будаўнічага прадпрыемства гудуць машыны і завіхаюцца рабочыя пры вытворчасці зборных канструкцый — паволі, але настойліва нараджаецца рыбалаўскі камбінат мяса.

**І. Снарскі**
**Фота аўтара**

# ЯК ЖЫВУЦЬ У ТУРНЕ?

**(Працяг са стар. 1)**

— Калі мы вярнуліся з бежанцаў, — пачынае свой расказ дзядзька Якуб, — то тут не было ні кала, ні двара. Усё кругом зарасло зеллем, травой і кустамі. У зямлянках жылі, лебядой карміліся...

Ад тых дзён прайшло ўжо паўстагоддзя. Цяпер за плячыма ў дзядзькі Якуба прасторны, дбайна ашаляваны і прыгожа размаляваны жылы дом, яго сына Аляксандра, вялікі панадворак, на якім відаць шматлікія сельскагаспадарчыя прылады і машыны. Ля плоту чакае гаспадара здаравенны, добра адкормлены конь, які па сваёй сіле наўрад ці ўступіў бы абы-якому трактару. У адкрытых варотах стаўпіліся на хвіліну чорна-белыя „аляндэркі“, каровы наймаднейшай цяпер пароды „нцб“. Адна такая красуля, калі зацелена, каштуе больш 10 тыс. зл.

Пры суседнім агародчыку, за якім свежым колерам цэглы ганарыцца вялікая мураванка, абапершыся на палку, спыніўся яшчэ адзін жыхар Турны — Антон Жабюк, малодшы брат Якуба.

— Наш бацька, — гаворыць ён, — лічыўся ў вёсцы самым лепшым гаспадаром. Збіралі мы па 50 коп жыта. Аднак кожны з нашых сыноў цяпер паасобку мае амаль удвая больш усяго дабра, як меў іх дзед, а наш бацька...

Вуліцай праімчалася сямяціцкая таксоўка № 30 і заехала на панадворак аднаго з Мудэляў.

— Вось бачыце, як цяпер жывуць у нас! — усклікнуў дзядзька Якуб. — Таксоўкамі катаюцца! Гэтых дурных 10 кіламетраў у горад ужо пехатой прайсці лянуюцца. Лета чэрвеньскае стаіць, а яны босай нагой да святой зямелькі, едрона палку, баяцца дакрануцца... Усё ў ботах, у нейлонах, каб іх халера...

Вёска Турна знаходзіцца на тым папагранічча, дзе канчаецца праваслаўе і распачынаецца каталічаства. У Турне на 70 гаспадароў жыве 5 каталіцкіх сем'яў. Жыхары вёскі між сабой карыстаюцца мясцовай беларускай гаворкай. З прыезджымі аднак размаўляюць выключна на польскай мове.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Цяперашні дзень і будучыню вёскі Турна Дужа ў Сямяціцкай гміне вызначаюць вось такія будоўлі, як двухпавярховы дом Васіля Мудэля.*

# Дзве бяды Альхоўкі

Сяло Альхоўка, што каля Нараўкі, — пушчанскае сяло. З акон хатаў відаць стройная сцяна Белавежскай пушчы. Спакон веку тут навокал топель ды макрэча, асабліва ж каля самай пушчы, дзе знаходзіцца самая ўраджайная зямля на агародах ды прасціраюцца луг і паша. Вясной ці восенню, а нават як пойдуць дажджы ўлетку, ні ўехаць туды, ні ўвайсці. Вымакае збожжа, бульба, гародніна, а з жывёлай проста няма куды дзецца, хоць ты яе на страсе пасі. І не дзіва, што вялікая надзея ды шчырая радасць уступіла ў сэрцы альхаўчан, калі гэтай вясной Бельскае меліярацыйнае прадпрыемства пачало пракладваць глыбокі канал па забалочанаму руслу рэчкі Альхоўкі. Узялося яго капаць ад вёскі Семяноўкі, выкапала да Забрадоў і... затрымалася. Далей меліяраваць не будзе, бо быццам у планах не фігуруе. А ад Забрадоў да вёскі Альхоўкі блізка, адно рукой падаць. Вось табе і на! Бы бурбалка з мыла, пырснулі ўсе надзеі альхаўчан на павышэнне ўраджаяў і павелічэнне жывёлагадоўлі за кошт меліярацыі.

Другая бяда Альхоўкі — гэта супольны вясковы выган. Лічыцца нібы паша для жывёлы, але ён жа голы, як бубен, нават вош у той траве не схаваецца. Як выйдзе туды быдла, дык рэвам раве, аж млосна слухаць. Каб гаспадары не прыкармлівалі дабытку ў хлявах, дык ногі павыцягаў бы на той пашы. Чаго ўжо не рабілі і якіх парогаў не абівалі альхаўчане, каб гэты выган-бубен падзяліць між сялянамі ды парадкам загаспадарыць. Але нідзе нічога не дабіліся. Так і марнуецца 34 гектары абшару, з якога колькі б карысці мела і вёска і дзяржава!

А можа Гміннае ўпраўленне ў Нараўцы, атрымаўшы ў выніку адміністрацыйнай рэформы шырокія правы і магчымасці ў галіне добраўпарадкавання сельскай гаспадаркі і павышэння сельскагаспадарчай вытворчасці, неадкладна зоймецца гэтымі праблемамі? Спадзяемся, што і аддзел сельскай гаспадаркі Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку таксама прыйдзе з дзейснай дапамогай у вырашэнні абедзвюх бедаў Альхоўкі. (іс)








## Нашаніўская пара

**АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XII**

**Фальклорныя творы.** Разгледзім чатыры вершаваныя апрацоўкі: „Журба і смехаццё“, „Спрэчка“, „Каму што“, „Шчасце Мацея“, у якіх моцна гучыць струна народнага матыву. Усе гэтыя творы аб'ядноўвае вясёлы або гумарыстычны настрой, усе яны ўтрыманы ў норме вершаванага апавядання. Характэрная іх рыса — фабулярнасць. Выступае ў іх завязка, кульмінацыя, развязка. Як правіла, развязка мае камічны характар. Стылістыка твораў таксама тыпова народная. Адзначаецца яна лёгкасцю, камунікатыўнасцю, дынамікай. Наступнай, супольнай для ўсіх названых вершаў рысай з'яўляецца наяўнасць дыялогу. Дзякуючы гэтаму творы становяцца сцэнічнымі. Заўсёды ў іх выступаюць нейкія постаці, якія вядуць паміж сабою размову. Постаці гэтыя выказваюць супрацьстаўныя ідэі, паджаданні, канцэпцыі, у сутыкненні гэтых супрацьстаўнасцей і праяўляецца „драматызм“ твораў. Дыялаг вядзецца паміж рэальнымі чалавечымі постацямі, паміж чалавекам і святым Юрыем, урэшце паміж адцягнутымі, абстрактнымі, але персаніфікаванымі ў чалавечых постацях паняццямі — журбой і смехам.

Твор „Журба і смехаццё“ звязаны з фальклорнымі традыцыямі і сваёй стылістыкай, і сваёй тэмай, і сваёй ідэяй. Паслухайма фрагмент твора:

Раз журба з смехаццём
Напіліся мёду
І пайшлі на кірмаш
Паглядзець народу.
Вось журба і завяла,
Несуцешна плача.
Смехаццё — ж ля яе
На дарозе скача.

У такой лёгкай манеры ўтрымоўвалі свае вершаваныя апавяданні народныя казачнікі, выкарыстаў гэту манеру і Гарун. У беларускім фальклоры вельмі часта бяда, гора выступаюць у постацях людзей, і гэты прыём скарыстоўвае паэт. Урэшце сувязь гэтага твора з фальклорнай традыцыяй праяўляецца ў яго філасофскай праслойцы. Ідэя твора такая: без дабра няма і ліха і няма ліха без дабра. Журба і смех — нераздзельны. Спадарожнічаюць яны безупынна нашаму жыццю. Яны „кум і кума“. Характэрнай рысай іх жыцця з'яўляюцца спрэчкі, канфлікты, калатня, але яны з'яўляюцца тым фактарам, які выважае раўнавагу нашага матэрыяльнага і духоўнага жыцця. І хаця ў вершы Гаруна ў канцы канцоў журба ўцякае ад смеху, дык мы не сумняваемся, што яна зноў вернецца да свайго „кума“.

Характэрную пазіцыю ў фальклорным цыкле займае таксама вершаванае апавяданне „Спрэчка“. У гэтым творы Гарун выкарыстоўвае тыповы для сваіх народных твораў сродак — гарэлку. Дзякуючы гарэлцы героі скідаюць маскі, становяцца тым, чым яны з'яўляюцца ў сапраўднасці. Супрацьстаўная крайнасць чалавечых пастаў спрыяе заснаванню канфлікту паміж героямі. Канфлікт спрыяе сцэнічнасці твора, яго дынаміцы і эмацыянальнасці. Усё гэта і характарызуе „Спрэчку“. Змест твора просты. Суседзі, сваякі, Тодары, Пранцішкі, Тамашы напіліся пасля кірмашу ў карчме. Гарэлка вызваліла ў іх схільнасць да „філасофствавання“. У канцы размова даходзіць да праблем веры. Тут пачынаюць даходзіць да голасу моцныя эмоцыі. Для ўзмацнення сваёй аргументацыі героі звяртаюцца да сілы сваіх кулакоў. Пачынаецца бойка. Рэлігія, якая ў сваёй істоце з'яўляецца сімвалам гармоніі, згоды і міру, становіцца прычынай фізічнай калатні. У гэтым і заключаецца камічны парадокс прадстаўленай сітуацыі. Знаходзіцца аднак у грамадзе „апякунчы дух“ — дзед Ігнацы, які мірыць раз'юшаных суседзяў. Аргументы Ігнацыя — ёмкія.

Ну, на ліха вам сварыцца?
З розных вераў вы — адны.
Дзеці гэтае зямліцы,
Краю гэтага сыны.
Вера ўсім з жыццём даецца,
Хто іх даў — яму іх знаць!
Дурань той, хто спадзяецца
Веры „сілай“ паяднаць.
Мы і так, браткі, знявагі
Досыць мелі ад чужых,
Каб спрачацца без развагі,
Ці не цешым толькі іх?

Прыведзены фрагмент твора заключае ў сабе, несумненна, дыдактычны, маралізатарскі элемент. Элемент такі наогул чужы народнай паэзіі. Адкуль у вершы Гаруна паявілася маралізатарская тэндэнцыя? Мабыць, з характару беларускага жыцця. Не раз паэт быў сведкам канфлікту паміж каталікамі і праваслаўнымі, а лічачы адных і другіх беларусамі, хацеў запабегчы непаразуменням паміж імі.

Вяртаючыся яшчэ раз да зместу **„Спрэчкі“, трэба сказаць**, што твор як бы складаецца з двух частак: першая тыпова камічная, другая — сур'ёзная, павучальная, дыдактычная.

 

Чаму дзіця не вучыцца роднай мове?

# Мой пункт гледжання

Мікалай Гайдук у сваім артыкуле „У чым прычына?“ вельмі цікава ахарактарызаваў беларускае школьніцтва ў пачатковых школах на Беласточчыне. На падставе гэтага матэрыяла перш за ўсё кідаецца ў вочы тое, што нешта робіцца нядобрае ў нас, паўстае нейкі маразм сярод нас — беларусаў. Мы нейкія абыякавыя: рабіць, есці і спаць, а больш нас нічога не цікавіць.

Не згаджуся з тым, што галоўнай прычынай з'яўляецца малая актыўнасць беларускай арганізацыі БГКТ, якая прысвячае мала ўвагі таму, каб бацькі прысылалі дзяцей на ўрокі беларускай мовы. Тут трохі праўды ёсць, але гэта не галоўная прычына. Калі я сам хадзіў у школу ў першыя класы, гэта дзесьці ў 1950-52 гадах, у той час БГКТ не існавала зусім. Аднак усе вучні дакладна хадзілі на ўрокі роднай мовы. І, як гэта кажуць, урок быў таксама дакладны.

Многа залежыць і ад настаўніка. Нас вучыў Трахім Панфілюк, і ён усю сваю душу аддаваў таму, каб дзеці шанавалі сваю гісторыю і сваю родную мову. І за ўвесь перыяд працы гэтага чалавека ніколі вучань не абіваўся каля школы ў час навучання беларускай мовы. Усе хадзілі. Сёння ў Дубічах Царкоўных у навучанні беларускай мовы сітуацыя таксама не крытычная, а нават добрая. На цэлую школу толькі каля 10 вучняў не ходзіць на ўрок беларускай мовы. А так усе ходзяць. Вучыць іх гэтай мове Ніна Панфілюк. Яна вельмі многа сілы прысвячае, каб вучні хадзілі на ўрок беларускай мовы. І ёй гэта ўдаецца, а людзі яе за гэта любяць і шануюць. Па-мойму, галоўнай прычынай з'яўляецца малая актыўнасць некаторых настаўнікаў.

Другое: беларуская мова — прадмет не абавязковы. Напрыклад, увялі б такі парадак, што некаторыя дакладныя прадметы, як матэматыка, фізіка, хімія, сталі не абавязковыя. Напэўна многа вучняў з радасцю перастала б на іх хадзіць, хаця ведаем мы ўсе, а таксама і малодшыя, што сённяшняе жыццё немагчымае без гэтых ведаў. Ведаем і тое, што маладое пакаленне капрызнае, і многія дзеці не слухаюць сваіх бацькоў і таксама выхавацеляў. Як жа гэта? На ўрок хадзіць не абавязкова, дык навошта ламаць сваю галаву?

Дзеці не здаюць сабе з гэтага справы і тым больш задаволены, калі бацькі моўчкі з імі згаджаюцца.

Прыпомню яшчэ, як я ў першым класе ў 1950 годзе на ўроку беларускай мовы пачынаў вучыцца. Як было цяжка з падручнікамі. Помню, настаўнік прынёс пасылку з букварамі і пачаў раздаваць нам. Адзін буквар прыпадаў на трох-чатырох вучняў. Але мы і тым былі задаволены. А сёння? Няма клопатаў з букварамі і іншымі школьнымі дапаможнікамі.

На заканчэнне хачу яшчэ дадаць, што тыднёвік „Ніва“ з дадаткам „Зорка“ адыгрывае вялікую ролю ў распаўсюджванні роднай мовы сярод маладога пакалення. Гэта дадатковы падручнік і выхавацель. Я як пісьманосец добра гэта ведаю. На маёй тэрыторыі тыя бацькі, якія выпісваюць „Ніву“, кіруюць дзяцей на вывучэнне беларускай мовы. І з радасцю магу адзначыць, што ў нас амаль усе бацькі і іх дзеці з'яўляюцца сталымі падпісчыкамі гэтай газеты. Дык у нас няма і не будзе трагедыі ў навучанні роднай мовы. Толькі душа баліць, калі чуеш, што ёсць такія месцы на Беласточчыне, дзе хочуць адкаснуцца ад свайго роднага. Не крыўдна гэта?

**М. Панфілюк**

(Працяг са стар. 2)

# Пятро Глебка

не пануючых класаў. У 1957 г. П. Глебка публікуе паэму „Святло з Усходу“, прысвечаную Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі.

П. Глебка доўгі час узначальваў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, узнагароджан ордэнам Леніна і іншымі ордэнамі і медалямі.

Памёр П. Глебка 18 снежня 1969 года.

Я. Колас, выказваючыся аб творчасці П. Глебкі, пісаў: „Паэзія Пятра Глебкі простая, сціплая і мужная“. (іс)

## ФАЛЬКЛОР

ХРЫСЦІННАЯ

Allegro



Сі-ді-мо мы сі-ді-мо — нэ-вэ-сё-ло бу-дэ-мо,



коб га-рэл-кі да-лі — вэ-сэ-лей-шы бы-лі б.

*Сідімо мы сідімо —*
*нэвэсёло будэмо,*
*коб гарэлкі далі —*
*вэсэлейшы булі б,*
*коб гарэлкі далі —*
*вэсэлейшы былі б.*
*Як вып'емо по кілішку,*
*чы нэ будэ лепі крышку?*
*Як вып'емо по другому,*
*чы нэ будэ лепі кому?*
*Як вып'емо по другому,*
*чы нэ будэ лепі кому?*
. . . . . . . . . . .

*Коб горэлкі нэ піў,*
*табакі нэ нюхаў,*
*чужых жонок нэ любіў,*
*оно свое слухаў,*
*чужых жонок нэ любіў,*
*оно свое слухаў.*
*Бо чужые жонкі,*
*як той палын горкі,*
*своя молодэнька,*
*як мёд, солодэнька,*
*своя молодэнька,*
*як мёд, солодэнька.*

Ад Настасіі Паўлючук, 1905 года нараджэння, і Марыі Паўлючук, 1906 года нараджэння, вёска Цялушкі Заблудаўскай гміны, запісаў 31 студзеня 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# Выратаваныя ад вандалаў

Знішчаныя адступаючым нямецкім акупантам 23 ліпеня 1944 г. разам са старажытным супрасльскім Благавешчанскім саборам славутыя фрэскі ў ім адрадзіліся з руінаў і ў наш час набылі шырокую папулярнасць.

Гісторыя супрасльскіх фрэскаў — гэта гісторыя маленькай крышынкі чароўнага візантыйскага мастацтва, што дзіўным шляхам заблукала ў непраходныя нетры колішняй блудаўскай пушчы. Недзе каля 1498 г. маршалак Вялікага княства Літоўскага Аляксандр Хадкевіч запрасіў у свой замак у Гарадку групу манахаў з Кіева-Пячэрскай лаўры. Як кажа легенда, аскетычнай манашаскай брацці не да спадобы прыйшлося жыццё пры шумлівым ды поўным свецкіх спакусаў маршалкавым двары, і яны выпрасілі ў свайго дабрадзецеля кавалак Блудаўскай пушчы ў сярэднім цячэнні ракі Супраслі ва ўрочышчы Сухі Груд. Там у 1500 г. заснавалі манастыр, узвялі драўляную цэркаўку. Шчодра абдараваныя маршалкам А. Хадкевічам і мітрапалітам смаленскім І. Солтанам вялікім абшарам пушчы, зямель, а таксама сёламі з прыгоннымі сялянамі, пабудавалі ў 1503-1511 г.г. мураваную архітэктурную пышнасць — Благавешчанскі сабор. У 1557 г. намаганнямі тагачаснага архімандрыта манастыра С. Кімбара ў Супрасль прыбывае нейкі таямнічы „сербін Нетарый маляр“ і пакрывае сцэны, зводы, калоны і купал унутры сабора цудоўнай фрэскавай роспіссю. Паводле тагачаснай царкоўнай візантыйскай традыцыі фрэскі прадстаўлялі сцэны з жыцця Хрыста і Багамацеры, вобразы архангелаў, херувімаў, апосталаў, евангелістаў, святых і мучанікаў. Сербскі мастак клаў фарбы на свежы, крыху падсохшы тынк, дадаючы пры гэтым у вапнавы раствор для падкладкі дробненька пасечаныя канапляныя валокны, каб фарбы лепш трымаліся. З-пад рукі Нектарыя выйшлі жамчужыны іконаграфічнага мастацтва. Велічныя ў сваёй суровасці постаці святых прадставіў ён надта прывабна і далікатна, надзяліў іх жывой лёгкасцю руху і апрануў у багатае ўрачыстае адзенне. Мастак не любіў рэзкіх колераў. На шэра-блакітным фоне клаў светлыя лёгкія тоны, адценні светларужовага пераліваў у залаціста-жоўтае, спакойнае і цёплае. Глыбокі роздум і душэўная раўнавага тхне з позірку святых. Здаецца, няма нічога такога свецкага, звычайнага, людскога, што было б ім чужое, адлеглае. Са зразуменнем і прабачэннем глядзяць яны на свет. Цудоўная пахвала непаўторнай красы зямнога жыцця!..

„*У палавіне XIV стагоддзя, калі старажытнавізантыйскае мастацтва ў яго цэнтры Канстантынопалі ўжо пагасла,* — піша даследчыца супрасльскіх фрэскаў Л. Лебядзінская, — *на поўначы, у царстве Супрасльскага базільянскага манастыра заззяла зноў уся прыгажосць жывапісу, што вырас на глебе ўсё яшчэ жывых традыцый візантыйскага элінізму*“.

Нічога мы не ведаем пра таленавітага мастака Нектарыя. Ён з'явіўся ў Супраслі і адышоў з яго, як цень, пакінуўшы ў ім свой векавечны след. Супрасльскія фрэскі перажылі многае. Іх закрывалі ў XVII стагоддзі ўніяцкімі статуямі і забудоўвалі панелямі, потым нішчылі іх прыгажосць зацёкі і цвіль, урэшце яны былі забелены вапнай, а нямецкія падрыўнікі-знішташальнікі абклалі іх дынамітам і ўзарвалі. Калі былі ўжо прагнаны з нашай зямлі вандалы-захопнікі, каля стосу супрасльскіх руін з'явіліся людзі, адданыя мастацтву. Цэлымі тыднямі асколачак за асколачкам выкалупвалі яны з друзу рэшткі фрэскаў і карпатліва забяспечвалі іх. Некалькі год працавалі над імі спецыялісты-кансерватары ў Варшаўскай рэстаўрацыйнай майстэрні. Дзякуючы праведзенай з надзвычайным піетызмам працы ўдалося ўваскрасіць 30 фрэскаў. Упершыню яны заяснелі поўнай сваёй красой у студзені 1965 г. на выстаўцы ў Варшаўскім нацыянальным музеі, а потым сталі самым каштоўным экспанатам у Акруговым музеі ў Беластоку, у якім і цяпер зачароўваюць тысячы наведвальнікаў.

Ваяводская рада нарадовая ў Беластоку выпусціла ў 1968 г. спецыяльны каляровы альбом „Фрэскі з Супрасля“, які на працягу некалькі месяцаў быў распрадазы; прадпрыемства „Друк-Кніга-Рух“ у 1973 г. выдала камплект паштовак пад такім жа загалоўкам — яго ўжо амаль немагчыма набыць; у мінулым годзе кааператыў мастацкіх вырабаў у Горліцах нарыхтаваў на драўляных дошчачках некалькі тысяч рэпрадукцый-іконак постацей з супрасльскіх фрэскаў — яны ўжо сталі не да здабыцця. І тут хочацца звярнуць увагу аддзелу культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку, што трэба падумаць аб новых выданнях рэпрадукцый несмяротных твораў таямнічага майстра жывапісу Нектарыя, супрасльскіх фрэскаў — самай каштоўнай жамчужыны мастацтва з мінулага нашай Беластоцкай зямлі. (іс)

## Наша галерэя

# „САВЕЦКАЯ МОЛАДЗЬ“

Пад такім загалоўкам Агенцтва друку „Новасці“ падрыхтавала фотавыстаўку, якая цяпер дэманструецца ў Беластоку ў выставачным салоне ў „лятаючых талерках“ на вуліцы Дамброўскага.

На прыкладах з жыцця савецкай моладзі выстаўка паказвае канкрэтныя лёсы маладых людзей розных нацыянальнасцей і прафесій. Расказвае аб ролі і значэнні моладзі ў жыцці грамадства, якое будуе камунізм, аб магчымасцях агульнага і культурнага развіцця адзінкі ў СССР. Савецкая моладзь паказана ва ўсіх праявах жыцця — у працы, навуцы, адпачынку.

На выстаўцы звыш 300 прац найлепшых савецкіх фатографаў. На здымку: І. Далягін. Бег з бар'ерамі.



# ЗАБЫТЫЯ ПЛАТЫ

Даўно мінула зіма. На двары поўня лета. Не ўсе аднак гэта заўважаюць. Вось, напрыклад, работнікі чыгункі не знялі для перахоўвання супрацьснежныя платы (або заслоны, як іх па тутэйшаму называюць) паабапал чыгункі на шляху Нараўка — Гайнаўка. Стаяць яны пад чэрвеньскім небам каля вёскі Дубіны. Стаяць забытыя ўсімі, але ж і на віду ўсіх. А ўжо каго як каго, але і чыгуначнікаў. Бо тыя ж паяздамі найчасцей ездзяць. Можа і так прастаяць яны да наступнай зімы?

Не кожны можа так сабе спакойна глядзець, як нішчэюць асабліва тыя звенні платоў, якія збіў напорны вецер. Бо прыпамінаюць яны не толькі аб мінулай зіме. Таму паднімаем трывогу. Дакуль нішчэць грамадскаму дабру? Як можна абыякава адносіцца да яго?

Варта дадаць, што забытыя супрацьснежныя платы часта даводзіцца сустракаць і на іншых чыгуначных шляхах. Вось яшчэ на шляху Бельск-Чаромха непадалёку станцыі Грыгораўцы. Так што гэта не такая зусім рэдкая з'ява на Гайнаўшчыне ці Бельшчыне.

(ця)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Пісьманосец з Дубяжына

Валодзя Куптэль з'яўляецца нашым пісьманосцам. Працуе ён на гэтай пасадзе ўжо 8 гадоў. Прыносіць газеты і пісьмы жыхарам Дубяжына і іншых вёсак: Падбелля, Мокрага, Грэдалёў, Кошкаў. Разам ён развозіць у гэтыя вёскі 480 экзэмпляраў газет і часопісаў. Валодзя заўсёды вясёлы, з кожным пагаворыць. Акрамя працы, ён яшчэ завочна вучыцца ў тэхнікуме ў Варшаве.

Валодзя Куптэль плануе палепшыць кальпартаж газет і пісьмаў на сваёй тэрыторыі. Заключацца гэта будзе ў тым, што ў кожнага жыхара будзе свая паштовая скрынка. З гэтым наш пісьманосец хоча звярнуцца да адпаведных улад.

**Валя Мойсік**
**з Дубяжына**

## Музей памяці

Музей мартыралогіі ў школе-інтэрнаце групы сельскагаспадарчых школ у Бельску Падляшскім існуе ад 1960 года. Ён змяшчаецца ў былым будынку гестапа. Музей прысвечаны памяці паўшым у барацьбе з германскім фашызмам на бельскападляшскай зямлі. У ім экспанаты і дакументы гітлераўскай палітыкі знішчэння насельніцтва Падляшша масавымі расстрэламі, вывазам на катаржную працу, пацыфікацыяй вёсак.

У музей прыходзіць асабліва многа моладзі з розных школ Бельска і ваколіц. Прыходзяць і старэйшыя людзі. Наведваюць музей таксама госці з заграніцы. У памятную кніжку яны пішуць свае пажаданні, каб ніколі больш не было вайны.

**Мікалай Няплоха**

## Клуб у Чыжыках

У сёлетнія дні асветы, культуры, кнігі і прэсы ў Чыжыках, Гайнаўскай гміны, быў адкрыты яшчэ адзін у нашай гміне клуб прэсы і кнігі „Рух". Клуб змяшчаецца у будынку даўнейшай чатырохкласнай школы.

У гэтым будынку знаходзіцца таксама чыжыцкі ЛЗС. Існуе ён ужо некалькі год і мае шматлікія дыпломы і кубкі, якія ўпрыгожваюць сцены клуба.

Кожны дзень у клуб прыходзіць многа чыжыцкіх жыхароў, а таксама людзей з вёскі Пуціскі. Прыходзяць у клуб, каб пачытаць газеты, паглядзець тэлевізар, пагуляць у шашкі і шахматы, выпіць каву. Клуб вядзе актыўную дзейнасць дзякуючы старанням старшыні клуба Асіпюка і ўсёй чыжыцкай моладзі. У клубе чыстата і парадак. Сочыць за гэтым гаспадар клуба Аня Галёнка.

**Вада**




**ЛЕС**

Там за вёскаю ўздоўж
Лес магутны стаіць,
І здаецца, што зноў
Ён шуміць і шуміць.

Ў ім былі партызаны,
Што па цяжкім баю
Самі лечылі раны,
Цяжку долю сваю.

А цяпер гэты лес
Ўжо зусім не такі,
Многа ў ім новых дрэў,
Многа кветак якіх.

А як прыйдзе вясна,
Зеляпеюць кусты,
Быццам зорка ясна,
Узыходзяць лісты.

Колькі дрэў ў лесе ёсць,
Немагчыма злічыць,
Колькі сосен, бяроз,
Колькі ж лісця шуміць...

Але ўсё-такі лес,
Хоць даўно ўжо стаіць,
Як шумеў ён раней,
Так цяпер зноў шуміць.

**Я. Г.,**
Галады

## Новыя экспанаты

Прыродазнаўчы музей у Белавежы, рыхтуючыся да новага сезона, выставіў у этнаграфічнай частцы шэраг экспанатаў, якія атрымаў з ліквідаванага ў 1973 г. белавежскага беларускага рэгіянальнага музея. Сярод іх варта назваць ступу з таўкачом, зробленую ў 1890 г. А. Федаруком з сяла Ваські; ярмо з 1880 г. з сяла Бандары; вяршу, ахвяраваную В. Рубчэўскім з Цяцерак. З іншых — рэжчык, ляшчоткі, лапату да хлеба, меркі, калаўротак, кадлубкі, плеценыя кошыкі. Усяго выстаўлена 35 экспанатаў.

**П. Байко**

## Такія спецыялісты патрэбны

Запатрабаванне на выпускнікоў Тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства з Бельска Падляшскага вялікае. У 1975 годзе былі ў тэхнікуме 84 выпускнікі. 15 з іх хочуць павышаць свае веды ў вышэйшых установах краіны. На стаж пойдуць 69 выпускнікоў. Будуць працаваць на наступных прадпрыемствах: ПОМ-ы — 3, СКР-ы — 17, ПГР-ы — 40, сельскагаспадарчыя кааператывы — 21, сельскагаспадарчыя школы — 7, іншыя — 8. З пісьмовых заявак, якія прыслалі ў школу прадпрыемствы, відаць, што ёсць магчымасць накіраваць на стаж 96 чалавек. Выпускнікоў бельскага тэхнікума прадпрыемствы ведаюць з добрага боку і таму хочуць іх прымаць.

**Мікалай Няплоха**

## Абяцалі даць цэмент

У Чыжах некалькі год таму назад быў перабудаваны і пашыраны стары брук. Апошні перабудаваны адрэзак вуліцы лічыцца на 1/3 даўжыні вёскі. Брук тут быў спраўна зроблены, таксама былі выкапаны равы па абодвух яго баках. Адразу гаспадары атрымалі на бетонныя мосцікі цэмбравіны ў гайнаўскім ПЗДЛ. Там абяцалі гаспадарам, што дадуць яшчэ цэмент абмураваць мосцікі, каб не абвальвалася зямля ў роў. На жаль, мінула ўжо шмат часу, а пра цэмент нічога не чуваць.

Тым часам гаспадары абкладаюць берагі мосцікаў дзернякамі, каменнямі і трылінкаю. Але ўсё гэта абсоўваецца ў роў ад цяжару праязджаючых фураў.

**Я. М.**

## Неспакойнае падарожжа

Вакзал ПКС у Беластоку. Гадзіна 13.15. Стаянка № 9. Нядзеля 1.VI.75 г. Аўтобус № АО 1647. Пасажыры занялі свае месцы. Многа жанчын, дзяцей, школьнікаў. Ні з туль ні з сюль разбушаваўся п'яны. Пасажыры ўваходзяць-выходзяць, п'яны не прапускае ніводнага, каб яго не зачапіць словам ці рукамі, абкідае брыдкімі вульгарнымі словамі. Шаноўная пані кандуктар мала рэагуе на такое хуліганства. Пасажыры звяртаюць ёй увагу на абыякавасць, таксама востра крытыкуюць п'янага. Мала бракавала, каб п'яны набіў чалавека.

І так мы, у такім неспакойным падарожжы затрымаліся на аўтобусным прыпынку каля вёскі Крывец. Выкаціўся п'яны Масайла Іван — солтыс вёскі Прыбудкі... Мой рэцэпт яму: не піце ў будучыні гарэлкі! Сваімі паводзінамі дэмаралізуеце моладзь, не даеце спакою людзям. Піць вам трэба маслянку, калі яна і пашкодзіць, дык ніколі на розум. Іншым ад гэтага не будзе бяды. Вы ж павінны даваць добры прыклад. Думаю, што „кобра", якую вы сыгралі, была апошняй у вашым жыцці.

**„Крапіва"**

## Пажарнікі з Шудзялава

Ад няпамятных часоў існуе ў Шудзялаве добраахвотная пажарная каманда. Яна дзейнічала тут яшчэ да апошняй вайны. Пасля вайны ў цяжкіх умовах людзі ўзяліся за працу. Ручную мотапомпу вазілі на возе. Вясною і летам выстаўлялі стойку і трымалі дзяжурствы.

Цяпер шудзялаўскія пажарнікі маюць усе супрацьпажарныя прылады: уласны самаход, вялікі бачкавоз, больш, як 300 метраў шланга. Работы таксама хапае. Найперш вясною — абыйдуць яны ўсе будынкі і праверацьь супрацьпажарны парадак. Каму лёгка падкажуць, дзе што не ў парадку, а каму і моцна. Другі агляд гаспадарак праводзяць перад летам, а потым зноў у час малацьбы, каб салома ляжала, як трэба і каб людзі не ставілі розных матораў блізка саломы.

Начальнікам шудзялаўскай пажарнай каманды з'яўляецца Станіслаў Гжыбэк.

**Т. К.**

## Найлепшая пошта ў 1974 годзе

У паштова-тэлекамунікацыйным упраўленні ў Гайнаўцы адбыўся падлік спаборніцтва працы паміж паасобнымі паштовымі ўстановамі Гайнаўшчыны за 1974 год.

І месца заваяваў калектыў пошты Чаромха, які працуе пад кіраўніцтвам Ніны Раманюк.

ІІ месца прызнана пошце ў Нарве, дзе начальнікам з'яўляецца Павел Невядомскі.

ІІІ месца заняў калектыў пошты Палічна пад кіраўніцтвам Яўгенія Каравая. Пераможцы атрымалі дыпломы.

**Э. Вайсковіч**

## Дрэнаж

Нядаўна на палетках і сенажацях вёскі Тафілаўцы Дубіцкай гміны машынамі пачалі рабіць дрэнаж. Зямля тут у большасці цяжкая, падмоклая і дрэнаж патрэбны. Ён будзе праводзіцца не толькі на тафілаўскіх землях, але і прыгранічных, якія належаць да Дубіч Царкоўных і іншых вёсак.

Паводле плана, праца закончыцца летам 1976 г. Работы праводзіць Меліярацыйнае прадпрыемства з Бельска Падляшскага.

**М. Панфілюк**

## Цікавы гадзіннік

Бельская ратуша можа пахваліцца цікавым гадзіннікам. Выканалі яго варшаўскія рамеснікі, якімі кіраваў мгр інж. Здзіслаў Паўліцкі. Электронную кіруючую шафу выканаў Андрэй Барцікоўскі, а праект цыферблата — Лявон Махоўскі. Праз кожныя паўгадзіны гадзіннік б'е адзін раз, кожную поўную гадзіну — столькі разоў, колькі гадзін, а ў гадзінах 6, 9, 12, 18, 21, 24 іграюць куранты вясельную мелодыю „Выйдзі жа, заранька найпрыгажэйшая", якую адшукаў і апрацаваў на цымбалкі Мар'ян Даманскі з Польскага радыё.

Варта падзякаваць мгр інж. Юрыю Трыбурскаму і начальніку горада Бельск Падляшскі мгр Яўгенію Васілеўскаму за дапамогу пры пабудове гадзінніка.

**Жэня Аўсенюк**

## Асфальт

На жвіраванай дарозе Дубічы Царкоўныя — Стары Корнін рабочыя кладуць асфальт. Гэта ўжо другі пласт. Гатовы асфальт прывозяць грузавікамі з Гайнаўкі, і спецыяльная машына раскладае яго на дарозе так, як мае быць.

Неўзабаве ўсе дарогі ў нашай гміне будуць асфальтаваны.

**М. Панфілюк**

## У Праневічах відна

Нядаўна вёска Праневічы каля Бельска атрымала новае вулічнае асвятленне, так званае „яжэнёвае", якое выручыла старыя лямпачкі. Новае асвятленне не толькі асвятляе вуліцу, але і ўпрыгожвае вёску, праз якую бяжыць асфальтаваная шаша з Бельска ў Беласток. Рух усялякіх машын не спыняецца тут нават уначы.

**Я. М.**

## Нешта не клеіцца

Яшчэ ў сакавіку гэтага года ў вёсцы Тафілаўцы павінны былі распачаць працу пры пабудове рамізы разам са святліцай. Фундаменты гэтага будынка даўно зроблены. Таксама чакаюць купленыя ўжо неабходныя матэрыялы. Іх перавезлі на месца будовы самі жыхары вёскі.

Майстар з Махнатага падпісаў умову, што пабудуе будынак поўнасцю яшчэ ў гэтым годзе. Але чамусьці адкладае з дня на дзень, з месяца на месяц. І гэтак спраўджаецца прымаўка: „Адклад не ідзе ў лад". Нешта не клеіцца з тафілаўскай будовай.

**П. Дубовіч**

### І ТАК БЫВАЕ, ШТО ГАСПАДАР АБ СВАІМ БАГАЦЦІ НЕ ЗНАЕ

Вёска Цільвічы нядаўна атрымала паведамленне, што яе гаспадары побач сваіх сенажацяў ля ракі Плоска ў ваколіцах Жэдні маюць палоскі добрага лесу. Кожны здзівіўся. Многія казалі так: „Я ўсё жыццё краў дровы і будаўнічы матэрыял, ды хаваў, а не ведаў, што краду сам у сябе". Як і прымаўка кажа: „Сем лет нявестка пражыла і не знала, што сучка без хваста". Але і гэтак у жыцці бывае.

**Мікола Краўчук**

## З жыцця вёскі

У вёсцы Махнатае працуе многа гурткоў розных арганізацый, як ЗСМВ, БГКТ, ОСП. Найбольшую актыўнасць праяўляе гурток ЗСМВ. Старшынёй яго з'яўляецца малады хлапец П. Семянюк, які вельмі многа працы прысвячае гуртку. У вёсцы ёсць і больш такіх, што цікавяцца яе жыццём і яе развіццём. Аднак ёсць і такая група маладых, якая ўвогуле нічым не цікавіцца, нішто іх не кранае — ніякія справы. Падобная з'ява выступае і ў гуртку БГКТ і ОСП.

Апрача горшых бакоў жыцця вёскі, ёсць і дадатнія. Да іх належыць праца нашага клуба селяніна і гуртка КГВ, якія супрацоўнічаюць. Клуб наш вельмі актыўны. У ім заўсёды актуальныя сценгазеты і плакаты. Многа дыпломаў за першыя месцы моладзі ў розных спаборніцтвах.

Дарагая рэдакцыя, надрукуйце напісанае, больш для тых, хто не цікавіцца жыццём вёскі. Можа, калі прачытаюць, то зразумеюць і яны, што павінны ўсе калектывам працаваць, а не толькі высмейваць працуючых.

**А. Білеўская**

## Браты — маляры

Непадалёку ад Новага Беразова знаходзіцца беразоўскі ПГР. Жыве тут 14 сем'яў. Ёсць і святліца, якой кіруе жыхарка ПГР — Каўнацкая. Сярод тутэйшых людзей жыве сям'я Васілюкоў – Зіна і Федзя. Іх сыны — Толік і Коля збіраюць ад людзей адны пахвалы. Толік пасля заканчэння васьмігадовай школы ў Новаберазове распачаў навуку ў маляра Каліноўскага ў Гайнаўцы. Прайшло пару год — і Толік стаў памочнікам маляра, а цяпер ён ужо майстар. Адкрыў свой малярскі варштат. Памагае яму малодшы брат Коля. Браты маюць многа працы і так крочаць ад гаспадара да гаспадара. Вельмі іх хваляць людзі і часта чуецца: браты-маляры — малайцы!

**Цюльпан**

## Крама № 6

У Гарадку на вуліцы Беластоцкай змяшчаецца крама № 6. У гэтай краме ёсць найбольшы выбар спажывецкіх прадуктаў. Кожную раніцу, апрача святаў, самаход з Беластока прывозіць сюды малако, масла, сыр. У краме чыста, усё акуратна ляжыць на полках. На відным месцы кніга скаргаў і прапаноў. Пры таварах цэны. Прадаўшчыцай у гэтай краме з'яўляецца Ірына Кароткіх, яна ветлівая і добра працуе.

**Юрка Паплаўскі**

## Прыдаўся б клуб

Гмінная вёска Храбалы ляжыць на галоўнай шашы Бельск Падляшскі — Беласток. Жыхароў у Храбалах не так і многа, але каб правесці вольны час старэйшым і малодшым — няма тут дзе. А ці вёска не заслугоўвае на клуб?

Варта дадаць, што ў вёсцы знаходзяцца гміна, пошта, пастарунак міліцыі, крама, пункт „Практычнай пані", васьмікласная гмінная школа, СОП, філіял па продажы ўгнаенняў, аптэка, пункт скупкі цялят і продажы вугалю.

Найгорш моладзі, якая марыць аб клубе ці святліцы. Можна было б тады арганізаваць конкурсы, сустрэчы з цікавымі людзьмі і прыемна праводзіць час. Думаю, што варта зацікавіцца гэтай справай.

**Жэня Аўсенюк**

## Паважаны рэдактар!

У апошнім нумары з 08.06.75 г. у маёй інфармацыі „Дзе купіць" вы памылкова напісалі пра „апыляч", а не, як я падаў, „апеляч". Гэтая прылада патрэбна селяніну для барацьбы з пустазеллем пры бульбе і бураках. Апылячы ў Бельску трапляюцца часцей, а „апелячы" толькі на лякарства.

**Ул. Сідарук**

„Niwa" — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

## Няма нічога лепшага за дрэнную пагоду

Пайшоў моцны дождж. У пад'езд, дзе ўжо хавалася ад непагоды некалькі чалавек, убеглі яшчэ двое. Пакуль адзін з іх прыводзіў у парадак свой прамоклы касцюм, другі сканцэнтравана ўглядаўся яму ў твар і ўрэшце сказаў:

— А я вас ведаю.

— Ну што ж, — згадзіўся той. — Мяне тут паўгорада ведае. Праходу не даюць.

— Прызнацца, у мяне таксама да вас справа.

— Паслухайце, я ж таксама чалавек. Рабочы дзень ужо кончыўся!

— Ды ў рабочы час да вас немагчыма дазваніцца!

— Ведаю. Тэлефон перагружаны. Старшыня даў указанне ўстанавіць яшчэ адзін апарат.

— Апрача таго, я праверў некалькі дзён у бясплодных спробах пагаварыць з вамі на працы.

— Так, я не сяджу на месцы. Зусім змучыўся. Часам хочацца плюнуць на ўсё, паехаць на дачу, пажыць крыху для сябе!..

— На прамілы Бог, не рабіце гэтага! А што будзе з намі?!

— У тым вось і справа! — асуджана ўздыхнуў другі і стомлена дадаў: — Ну, што там у вас?

— Паверце, гэта зойме ўсяго некалькі мінут!

— Баюся вам што-небудзь абяцаць. Ведаеце што? Паспрабуйце пазваніць мне на тым тыдні ў сераду або не... лепш у чацвер!

— Абавязкова! Не ведаю, як вам дзякаваць!

— Аб гэтым пасля. — І, убачыўшы, што дождж кончыўся, выйшаў, кіўнуўшы галавою на развітанне.

Сведка гэтай размовы, уражаны сваёй здагадкай, спытаў астаўшагася:

— Хто гэта быў? Міністр? Пасол?

— Хто?! — адказаў той. Вы што, зглузду з'ехалі? Гэта слесар з нашага жыллёвага кааператыва!

**Б. Парайскі, А. Саркісаў**



— *Знімі сваю блазенскую шапку, ці ж не бачыш, што ўсе вытрэшчваюць на нас вочы?*





— *Чуў, што ў вашым магазіне можна ўсё дастаць па знаёмству. Дык будзем знаёмы: Вася.*

### ВЕРАБЕЙ ПАД ВОБЛАКАМ

Гэта казачка жыла
І жыве, як звычай, —
Крылы дужыя ў арла
Верабей пазычыў.

І пад воблакамі аж
Неба ён памераў.
На зямлю дзівіўся наш
Верабейка шэры.

Па-над лесам,
Па-над полем
Ён кружыў
Над наваколлем.

І, спусціўшыся на дол,
Склаў ён крылы жвава.
— Як? — спытаў яго арол.
Верабей:
— Цікава!

Як былiначкі, дубы,
Возера, як пляма.
Рэчка, стружачка нібы,
Вузкая таксама.

І не вельмі луг вялікі, —
Верабей далей чырыкаў.
— На пакосе дзень пры дні
Бачу я авечак,
Не заўважыў з вышыні
Гэтую малечу.

Конь — таксама з камара,
Не ўтаю сакрэту.
Не каровы — машкара,
Я ж не ведаў гэта...

Тут я казку перабʼю —
Шкодзяць высі вераб'ю...

**Рыгор Яўсееў**

### ПАКЛАДЗІСТЫ КЛІЕНТ

Кліент ужо некалькі гадзін сядзіць у атэльe індпашыву, чакае. Нарэшце выходзіць да яго майстар і пытаецца:

— У вас маецца час яшчэ крышачку пачакаць?

— Часу хапае, але вось цярпення не канчаецца, — адказвае кліент.

### АСТРАНОМІЯ ВІНАВАТА

— Як мой сын вучыцца? — пытаецца бацька ў выкладчыка тэхнікума.

— Нішто сабе, зорак з неба не хапае...

— Я так і ведаў: ён і ў школе не паспяваў па астраноміі.

### ПАЗНАЎ

— Добры дзень, дзядзька Іван!.. Вы што, не пазналі мяне? А я вас адразу пазнаў. Памятаеце, у мінулым тыдні мы ў карты гулялі, і вы ўвесь вечар дурнем былі.

### СПАКОЙНА

— Я чуў, ваша дачка паехала ў Парыж. Вы не баіцеся спакусаў, якія спакушаюць маладую дзяўчынку ў гэтым горадзе?

— Не, не, я зусім спакойная. Дачка напісала, што ўжо знаходзіцца пад наглядам паліцыі.



**...Шчасце звалілася на яго нечакана. Ён нават не паспеў адыйсці ў бок.**

**...У графе „Сацыяльнае паходжанне" пісаў: „З дастаўшчыкоў".**

### З ГАБРАВА

Падлетак-габравец вырашыў намякнуць бацьку, каб той абяспечыў яго грашыма.

— Тата, я бачыў у сне, што ты даў мне дзесяць леваў.

— Цудоўна, маё дзіцятка. За тое, што ты ў мяне такі прыкладны сын, можаш гэтыя грошы пакінуць сабе.



### ПАНСКАЯ ЧУПРЫНА

— Чалавеча, бойся Бога, ратуй мяне! — крычаў, патанаючы, ліхі пан. Селянін, убачыўшы яго з берага, задумаўся ды й кажа:

— А як вас, пане, ратаваць, калі вас бы за чупрыну цягнуць, а вы наш пан?

— Цягні як хочаш, абы толькі жывым астаўся!

Селянін думае-думае — аж надбегла больш людзей ды й кажуць:

— Дзе ж пана можна за чупрыну браць? Што б ён ужо быў за пан, каб яго мужык за чупрыну хапаў?

— Ды пэўна, — адазваўся зноў нехта, — што не падыходзіць, бо відаць, што панская чупрына не да таго, гэта толькі мужыцкая чупрына на тое на свеце, каб яе паны цягнулі як хочуць і куды хочуць!

Вось так людзі раіліся, меркавалі ды гутарылі на беразе, а пан крычаў: „Хто ў Бога верыць, ратуйце!" — крычаў, крычаў ды й утапіўся...



— *Як? Пачаліся канікулы, а вы ўсё яшчэ робіце ўрокі?!*

### ЯК СТАЯЦЬ...

Зайшла бабуля ў краму і гаворыць, стукаючы шчыкалаткамі па прылаўку.

— Мне вотую хустку, што злева пад прылаўкам, і модныя боткі маёй унучцы, вось там скраю, справа.

— Скрозь дошкі бачыць, ведзьма! — пераглянуліся прадаўшчыкі.

— І ўсё ж, — заглядае адзін з іх пад прылавак, — хусткі тут справа, а боткі злева.

— Гэта як стаяць, — удакладніла бабуля.

**Песні па заяўках**

Па просьбе Аліны Амельянюк, Раісы Аляксеюк, Анны Таранты, Вітка Каліша з Гайнаўкі, Валянціны Максімюк з Плёсак, Анны Асенік, Гені і Лены Артэмюк, Тосі Палаўянюк з Парцава змяшчаем песню

## Lady, lady

muzyka: Groscolas
śpiewają: Partita i Sezam

Lady, lady, lady
Lady, lady, lady, la...
Wielki rozdziela nas świat
Lady, lady, lady
Lady, lady, lady, la...
Jesteś wciąż przy mnie w mych snach
Żadnych łez. Pożegnalny bukiet róż
Chłodny dotyk smutnych ust
Gdy odjeżdżałaś
Gdy odjeżdżałaś
Nie ma już
Nie ma ciebie, nie ma nas
Odjechałaś w inny świat
Już odjechałaś
Już odjechałaś
Już odjechałaś
Lady, lady, lady.
itd.
Byłaś jak w środku zimy letni dzień
Może wszystko było snem
Czy przyjechałaś?
Czy odjechałaś?
Jedno wiem
Nie ma ciebie — jestem sam
Już się nic nie zdarzy nam
Bo odjechałaś
bo odjechałaś
już odjechałaś
Lady, lady, lady
itd.
Wiem, że tam w twoim świecie inny ktoś
wiadomości czekał stąd
Że wyjechałaś
Że wyjechałaś
Czekał też
powitalny bukiet róż
Inny dotyk innych ust
Gdy przyjechałaś
Gdy przyjechałaś
Gdy przyjechałaś
Lady, lady, lady
itd.

### МІНІВЕРШЫ

#### РОЗНЫЯ ФАКТЫ

Кожны
з маленства меў дар
Факты збіраць без стомы.
Сёння
адзін — пляткар,
Другі —
акадэмік вядомы.

*Ул. Немізанскі*



## Курёзы

### СТУДЭНТКІ НА РЫНГУ

Сярод шматлікіх забаў, якія можа прапанаваць сваім наведвальнікам парк адпачынку „Бакен" паблізу Капенгагена, не апошняе месца займае „гразевы бокс", або бокс на рынгу, пакрыты ліпкай зеленаватай граззю. У ім прымаюць удзел толькі жанчыны, і пасля кожнага ўдалага ўдару цырпчая паражэнне „спартсменка" здымае адну за другой часткі свайго ўбрання. К канцу бою аголеныя і паўаголеныя целы пакрываюцца граззю, наліпшай у час падзення на рынгу. Жадаючых прыняць удзел у такім „спаборніцтве" не так ужо многа. Таму прадпрымальныя дзялкі з прапанавай выступіць на „Бакене" звярнуліся да... дацкіх студэнтак, не без падставы мяркуючы, што матэрыяльнае становішча студэнтак пакідае жадаць многа лепшага, а магчымасці зарабіць ва ўмовах узрастаючага ў краіне беспрацоўя зусім мізэрныя.

### „ДЖЭНТЛЬМЕНСКІ НАБОР"

У кожным з „пакетаў" былі: нажоўка па металу, набор напільнікаў, капронавая лесвіца, інструкцыя з падрабязным планам размяшчэння пастоў аховы і нават... сухі паёк на двое сутак. Адным словам, усё неабходнае для таго, хто вырашыў уцячы з турмы. Забяспечваў зняволеных такімі „наборамі" адзін са служачых турмы Флеры-Меражы (прыгарад Парыжа). І ўсяго за якую-небудзь тысячу франкаў. Справы ішлі вельмі паспяхова. Але справядлівая прыказка: колькі вяровачцы не віцца (нават калі яна з капрону і ў выглядзе лесвіцы), канец знойдзецца. Абаронцы служачы знаходзіцца ўсё ў той жа турме Флеры-Меражы. Праўда, па другі, так сказаць, бок кратаў і, на жаль, без надзеі на „пакет вызвалення...".

## Смяецца з намі

**Бывае, яшчэ ні з кім не выпіў, а цябе ўжо паважаюць.**